# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 19 (950) ГОД XIX БЕЛАСТОК 12 МАЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

# КААПЕРАЦЫЯ = БОЛЬШЫ ДАХОД

У сельскай гаспадарцы на яе сучасным этапе вылучаюцца дзве асноўныя справы: спецыялізацыя і простыя формы кааперацыі. Два гэтыя эканамічныя тэрміны цесна з сабой звязаны. Уводзіць і пашыраць спецыялізацыю ў сельскай гаспадарцы можна тады, калі будзе развівацца кааперацыя паміж гаспадаркамі: напрыклад, я табе прадукую парасят, ты гадуеш кормнікі, ён прадукуе корм, іншы скупляе і г.д.

Інакш гаворачы, сучасная гаспадарка не можа быць эканамічна незалежнай, калі хочам мець даход.

Даўным-даўно нашай вёсцы былі вядомы такія формы гаспадарання, як спраганне коньмі, талока і г.д. Калі гаспадар меў аднаго каня, то людзі дапамагалі адзін аднаму пры ўборцы, калі ў аднаго збожжа даспела, а ў іншага яшчэ было зеленаватае.

Розныя формы супрацоўніцтва ці суседская дапамогі сталі неабходнымі сёння, калі сельская гаспадарка механізуецца, уводзіць спецыялізацыю. Кожнаму амаль вядома, што такі сеўнік ці грабалка можа засеяць ці грэбсці не 15, а 150 і больш гектараў, а купляе іх індывідуальны гаспадар, заплаціўшы немалую суму грошай. А можна ж паміж згоднымі гаспадарамі падзяліцца: ты купляеш сеўнік, а я грабалку — і будзем дзяліцца. Або сыйшлося трое гаспадароў і гавораць, што каб можна было, дык залажылі б супольна птушкаферму і загаспадарылі б 30 гектараў дзяржаўнай зямлі.

Прымаючы пад увагу такія прапановы гаспадароў, Рада Міністраў прыняла адпаведныя пастановы. Рэгулююць яны праўны бок паўставання і дзейнасці калектываў індывідуальных гаспадароў.

Здавалася б, што калектывы гэтыя павінны вырастаць, як грыбы пасля дажджу. Аднак так не ёсць. У гэтым пераканаліся мы ў Бельскім павеце.

Праўда, дзейнічае тут каля паўтары тысячы груп супольнага карыстання сеўнікамі, малацілкамі і іншымі сельскагаспадарчымі прыладамі, але толькі 72 калектывы супольнага карыстання трактарамі і іншымі машынамі. Дагэтуль у павеце няма ніводнага калектыву індывідуальных гаспадароў, які б займаўся прадукцыяй. Гмінныя ўпраўленні зарэгістравалі 19 такіх калектываў, але знаходзяцца ўсе яны ў стадыі арганізацыі.

Такая колькасць з'яўляецца кропелькай у моры патрэб. Дык чаму ж іх так мала? Давялося нам пабываць на некалькіх вясковых сходах у час выбараў солтысаў і з іншай нагоды. Нідзе ніхто не гаварыў аб магчымасцях стварэння такіх калектываў. А тым часам гаспадары абсалютна не арыентуюцца, ці можна, а калі так, дык як стварыць такі калектыў. Мала таго, сельскагаспадарчы актыў у Бельскім павеце, як гаварылася на пленуме ПК ПАРП, таксама слаба арыентуецца ў гэтым. Ствара-

(Працяг на стар. 4)



*Бельская ратуша.* *Фота Р. Сянько*

З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР



ЛЮБА ГАЎРЫЛЮК

*Удзельніца сёлетняга цэнтральнага песеннага агляду БГКТ Люба Гаўрылюк з Беластока. Фота А. Карпюка.*

Дзякуючы творчай задуме і руплівай працы лодзінскага пісьменніка **Яна Гушчы** і прыхільным адносінам дзяржаўнага Лодзінскага выдавецтва, пад канец 1973 года атрымалі мы каштоўны падарунак: **„Выбраныя творы“ Максіма Багдановіча.** Амаль 120 старонак друку на добрай паперы, у палатняным пераплёце, з малюнкамі (хаця не найлепшымі) Барбары Паўлікоўскай.

Над перакладамі папрацавалі: **Ян Гушча, Тадэўш Хрусцялеўскі, Віктар Варашыльскі і Ян Капроўскі.** Найбольш — Ян Гушча, бо на 74 творы, якія складаюць гэтую кніжку, яго пяру належаць аж 54 пераклады. Тадэўш Хрусцялеўскі пераклаў 11 вершаў, В. Варашыльскі — 7, а Ян Капроўскі — 2.

Столькі справаздачнай статыстыкі. Яшчэ толькі неабходна адзначыць, што Ян Гушча папярэдзіў гэты зборнік цікавым і змястоўным уступным нарысам (10 старонак друку), дзякуючы якому польскі чытач атрымоўвае сінтэтычны літаратурны партрэт Максіма Багдановіча. У яго рамках змешчана шмат інфармацый пра пакутлівы жыццёвы шлях паэта і пра яго месца ў беларускай літаратуры.

Калі гутарка ідзе аб выбраных творах іншамоўнага паэта, дык неабходна адказаць на два асноўныя пытанні:

— у якой ступені гэты выбар адлюстроўвае творчую спадчыну пісьменніка?

— у якіх адносінах астаюцца мастацкія вартасці перакладу да арыгіналаў?

*„Багдановіч,* — адзначае аўтар падборкі ва ўступным нарысе, — *перш за ўсё лірык,* — і Ян Гушча паслядоўна стараецца пераканаць польскага чытача, што яно сапраўды так ёсць. Так, ён не адыходзіць тут ад праўды. Ужо бацька паэта, **Адам Багдановіч,** пісаў пра сына: *„Яго лірыка ёсць гісторыя яго душэўных перажыванняў, жывапісна расказаных ім самім... Тут увесь чалавек...“* Аднак гэта яшчэ не цэлая праўда. Па-за ўвагай складальніка польскай кніжкі паэзіі Максіма Багдановіча засталося найбольш твораў грамадскага і высокапатрыятычнага зместу, асабліва тых, што раскрывалі класавую няроўнасць, эксплуатацыю і бездапаможнасць беларускага мужыка і беларускага народа ўвогуле. Гэтыя творы, як адзначае Сцяпан Майхровіч, *„з'яўляюцца выдатнымі тварэннямі дэмакратычнай беларускай паэзіі“.*




Вось прыклад: ёсць у Багдановіча побач два *„Санеты“.* Адзін адлюстроўвае веру паэта ў адраджэнне народнага духу яго роднага краю, а другі санет прыносіць лірычнае апісанне белай лілеі, якая вырасла сярод смярдзючага балота. Гушча для перакладу выбірае гэты другі „Санет“.

Другі прыклад: у Багдановіча ёсць цыкл вершаў „Каханне і смерць“, а сярод іх цудоўны верш *„Як хораша, калі дзіцё пад сэрцам ціха зварухнецца“.* Ян Гушча выбраў для перакладу эратычнае апісанне пасляшлюбнай ночы.

Знаходзім тады ў польскай падборцы шмат вершаў пра каханне, пра беларускую прыроду; ёсць тут творы, у якіх паэт апісвае сваю нуду за родным краем. Сам Багдановіч пісаў, што яго *„творчасць была накіравана галоўным чынам на пашырэнне кола тэм і форм беларускай паэзіі“.* Сапраўды, поўна ў яго самых складаных паэтычных форм, такіх, як санет, трыялет, ронда, розныя віды паэтычнай страфы. Гэтай разнароднасці ў поўных размерах польскі чытач не адчуе, бо некаторыя творы Багдановіча, здаецца былі не

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



**Начальнік Беластоцкага павету мгр Васіль Гулько і начальнік Засцянкоўскай гміны мгр інж. Мікалай Філіпюк ў цяпліцы Г. Элевашэвіча (Да фотарэпартажа „Гароднінны басейн“, стар. 4).**



## БГКТ хроніка БГКТ

■ У Кнаразах на Бельшчыне пры дапамозе вучаніц беларускага ліцэя ў Бельску — Зосі Лапцевай і Люды Тамашук члены БГКТ падрыхтавалі дзве беларускія п'есы „Пярэстая красуля" і „Вывbooражыла" і паспяхова выступілі ў сваёй вёсцы. Самадзейнікі — Галя Савіцкая, Ірэна Андрэюк, Ніна Леўчук, Дзімітр Сідарук і Мікалай Ваўрэнюк добра справіліся са сваімі ролямі.

■ Члены гуртка БГКТ з Раек (Бельскі павет) Рыгор Семянюк, Зося Філіманюк, Крыстына Крынская і Юрка Семянюк таксама падрыхтавалі беларускую п'есу „Цяжкі выпадак" і 20 красавіка выступілі ў сваім вясковым клубе.

■ Гуртоk БГКТ у Горным (Гайнаўка) 24 красавіка арганізаваў урачысты вечар з нагоды гадавіны падпісання польска-савецкага дагавору аб дружбе і ўзаемнай дапамозе. На гэту тэму выступіў старшыня гуртка Уладзімір Суліма. Пасля паказаны быў савецкі фільм „Ключ да неба".

■ 26 красавіка адбылося пленарнае пасяджэнне праўлення бельскага аддзела, прысвечанае святкаванню XXX гадавіны Народнай Польшчы. Даклад на гэту тэму чытаў старшыня праўлення аддзела Аляксей Карпюк. У дыскусіі выступілі: Уладзімір Раеўскі, Язэп Альшэўскі, Сяргей Лукашук, Зінаіда Красоўская, Аляксандр Раманюк і Валянціна Філіпюк — культурна-асветны кіраўнік ГП БГКТ. Былі закрануты такія справы, як X гадавіна бельскага харавога калектыву „Васілёчкі", з'езд выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя і арганізаванне фэстына. Пленум прыняў праграму мерапрыемстваў з нагоды юбілейнага года нашай краіны.

■ Наш літаратар Сакрат Яновіч 27 красавіка правёў аўтарскі вечар у Баброўніках Беластоцкага павету. Многія жыхары гэтай вёскі купілі яго кніжку „Затоны" і зборнік „Літаратурная Беласточчына". У апошні час Сакрат Яновіч сустракаўся з чытачамі ў Меляшках і Малешах.

■ 27 красавіка адбыўся сход гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне. Абмеркаваны былі справы актывізацыі гуртка і стварэння драматычнага калектыву. У сходзе прыняў удзел працаўнік ГП БГКТ Янка Крупа.

■ 28 красавіка на сваім сходзе члены БГКТ у Вярхлессі выбралі новае праўленне: Крыстына Кішкель — старшыня, Яніна Дубянецкая — сакратар і Людміла Яцэвіч — скарбнік. У сходзе прыняла ўдзел Надзя Даніловіч — арганізацыйны кіраўнік ГП БГКТ.

■ Школьны песенны конкурс у Беластоцкім павеце, арганізаваны аддзелам асветы і аддзелам БГКТ, адбудзецца 12 мая.

■ Фінал песеннага конкурсу для школьнікаў запланаваны на 19 мая. Арганізатарамі яго з'яўляюцца аддзелы асветы і Беларускае таварыства.

■ Гурткі БГКТ у Райках, Кнаразах, Спічках і Леўках аплацілі складчыны за гэты год у ста працэнтах. (мх)



## Лідчанка ў Беластоку

Як мы ўжо інфармавалі, на ўрачыстым сходзе ў Беластоку з нагоды 29-ай гадавіны падпісання польска-савецкага дагавору ў Беластоку выступіў Народны ансамбль песні і танца „Лідчанка" з Гродзенскай вобласці. Іх цудоўныя песні і танцы пакінулі незабыўныя ўражанні ў нашых гледачоў.

**Тэкст і фота А. Карпюка**

ПЕРШАРАДНАЕ ЗАДАННЕ

## Чысціня

Лозунг сёлетняй ваяводскай акцыі — „парадак", і самая важная справа — ажыццяўленне задання „30 комплексна гігіенізаваных вёсак у ваяводстве на 30-годдзе ПНР" і далейшае паляпшэнне забеспячэння беластоцкай вёскі вадой. А з вадой клопат у нас стары. Першая спроба вырашыць гэта пытанне была зроблена ў снежні 1967 г. Тады ПВРН зацвердзіла адпаведную праграму да 1970 года ўключна. Аднак яна, па розных прычынах, не была поўнасцю выканана.

Прэзідыум ВРН зрабіў вывады: апрацоўваючы праграму на 1971—75 гады, паставіў перад Бюро вывучэння і прыкладных праектаў забеспячэння сялянскай гаспадаркі вадою заданне даследаваць ва ўсіх паветах ваяводства геалагічна-гідралагічнае становішча. І тады канкрэтна былі вызначаны нашы патрэбы. У першую чаргу наступленне пайшло на вёскі і паветы, у якіх найбольшы дэфіцыт вады.

Забяспечыць сельскую гаспадарку вадою можна не толькі шляхам капіталаўкладанняў. Гідрагеалагічныя ўмовы ў некаторых раёнах ваяводства дазваляюць направіць становішча самімі сялянамі. Зразумела, пры адпаведнай фаховай і крэдытнай дапамозе. Гэты момант якраз і ўлічваюць нашы агульнаваяводскія планы і гэтым пытаннем сур'ёзна займаюцца камітэты гігіенізацыі вёскі.

У гэтым годзе трэба аднавіць 10,5 тысяч калодзежаў (з ліку 120 тысяч існуючых калодзежаў у ваяводстве), пабудаваць 100 гідрафораў і 420 новых калодзежаў.

План значны. Ды іншага не можа быць, калі згаджаемся на прыярытэт сельскай гаспадаркі і развіццё турыстычных паслуг.

Не, не памыляюся, спалучаючы гэтыя дзве справы: ці ж можна ўявіць правільнае функцыянаванне „дачных вёсак" без забеспячэння вадою?

Гэта толькі адно пытанне. У гэтым годзе асаблівую ўвагу павінны мы звярнуць на шырэйшае ўвядзенне элементаў гігіенізацыі ў нашы вёскі. Так, як і ў мінулым годзе (перад дажынкамі), Беласточчына павінна прывітаць юбілей Радзімы ў прыгожай, чыстай і задбанай вопратцы. А становішча ў гэтай галіне зусім не вясёлае. Нават не кожная сядзіба гміннай рады можа быць узорам парадку і чысціні. Балаган часта страшыць на солтысаўскіх панадворках. Сум наводзіць забеспячэнне сялянскіх сялібаў простымі санітарнымі прыладамі.

Ужо апрацаваны тыповыя праекты сметнікаў, вясковых санітарных прылад. Гэтыя праекты разасланы ва ўсе вёскі. Але і такая праўда: 50% сялянскіх сялібаў не мае прыбіральняў. Ведаю багатага гаспадара: узорны жывёлавод, сын закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, дачка — медыцынскую акадэмію. Дзеці ахвотна наведваюць бацькоў, якія жывуць у вялікім новым доме (за 300 тысяч). Тут усё: тэлевізар, радыё, у хляве электрычнае святло. Толькі... вось, менавіта, толькі, як за непісьменных продкаў, трэба хадзіць за стадолу. Паўбяды летам, але зімою?

Вывады? Несумненны прагрэс, які прынеслі мінулыя гады ў галіне паляпшэння санітарнага становішча беластоцкай вёскі не можа засланіць надалей вялікіх патрэб і неабходнасці інтэнсіўнага дзеяння на ўсіх франтах гігіенізацыі пры выкарыстанні ўсіх магчымых метадаў і формаў.

**К. Вуйтовіч**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 12.V.**
6.55 Tech. Rol.: Chem. 7.25 Upr. roślin. 7.55 Pr. dnia. 8.00 Dziennik. 8.15 Gra Kapela F. Dzierżanowskiego. 9.00 Teleranek. 10.30 Ex libris. 10.40 Przyroda polska. 11.15 Kiangyang Kish — film dok. 12.15 Studio Muz. Rozr. 12.50 My 74. 14.05 Dla dzieci. 14.50 Nie tylko dla pań. 15.20 Piórkiem i węglem. 15.45 Los. Toto — Lot. 16.00 Dziennik. 16.15 Wyścig Pokoju. 18.10 Refleksje ob. 18.25 Tele — Echo. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Odyseja — film wł. 21.15 Samochód dla naj. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 13.V.**
12.45 Tech. Rol.: Mat. 13.25 Hod. zwierz. 15.40 NURT — Ekonom. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kurier Maz. 18.05 Pr. muz. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: W. Szekspir „Wszystko dobre, co się dobrze kończy". 22.10 Sport. 22.15 Wieczór profesorów. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 14.V.**
6.30 Tech. Rol.: Mat. 7.00 Hod. zwierz. 7.35 Ballada o żołnierzu — film fab. radz. 9.05 Odyseja — film wł. 10.00 Dla szkół: (kl. V—VI) J. pol. O miejsce wśród ludzi. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. J. Szaniawski „Żeglarz". 13.45 Tech. Rol.: Mat. 14.30 Hod. zwierz. 15.45 Pr. dnia. 16.00 Dziennik. 16.15 Wyścig Pokoju. 17.10 Dla dzieci. 17.40 Klub Tel. Mł. Egzamin. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Przy wspólnym stole. 19.05 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Ballada o żołnierzu — film fab. radz. 21.50 Sport. 22.05 Świat i Polska. 22.50 Dziennik.

**Środa 15.V.**
6.30 Tech. Rol.: Mat. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. Ważny kwas. 9.45 Ulice Bombaju — film dok. węg. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. Drgania i fale. 10.30 W każdą niedzielę rano — film fab. wł. 12.05 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Ceramika. 12.45 Tech. Rol.: Fiz. 13.25 Mech. rol. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. 15.45 NURT — Pedag. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dziennik. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.15 Piłka nożna. Polska — Grecja. 19.00 Przemysł, który żywi. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 W każdą niedzielę rano — film fab. wł. 22.00 Sport. 22.15 Artyści, kt. podziwiamy — B. Paprocki. 22.45 Dziennik.

**Czwartek 16.V.**
6.30 Tech. Rol.: Fiz. 7.00 Mech. Rol. 8.05 Śmierć czarnego króla — film fab. czech. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. Eliza Orzeszkowa. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) J. pol. Wł. Broniewski. 13.45 Tech. Rol.: Bot. 14.30 Mech. rol. 15.05 Mat. w szkole: Rozszerzenie numeracji do 1000 cz. I. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Inf., Tow., Prop. 16.15 Dziennik. 16.25 Wyścig Pokoju. 17.20 Ekran z bratkiem. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Sezam. 19.00 TEST. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Śmierć czarnego króla — film fab. czech. 22.10 Sport. 22.25 Listy i polityka. 22.55 Dziennik. 23.10 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 17.V.**
6.30 Tech. Rol.: Bot. 7.00 Mech. rol. 9.20 Malarz pejzażu — Jan Andrescu — film dok. rum. 9.30 Pokój przechodni — film fab. NRD. 11.10 Dla szkół: (kl. II) Na kiermaszu. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Pierwsza pomoc poszkod. bronią masowego rażenia. 12.45 Tech. Rol.: J. pol. 13.25 Chem. 14.30 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.40 NURT — Filozof. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Dziennik. 16.25 Wyścig Pokoju. 17.20 Pora na Telesfora. 18.00 Tyg. Inf. Mł. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Zodiak. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Sport. 21.45 Teatr TV: St. Stampf'l „Szósty dzień tworzenia". 23.00 Dziennik.

**Sobota 18.V.**
6.30 Tech. Rol.: J. pol. 7.00 Chem. 7.55 Rzeka czerwona — film fab. Western. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Indonezja. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy piętnastolatków II. 13.45 Tech. Rol. Zoolog. 14.30 J. pol. 15.35 Pr. dnia. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Red. Szk. zap. 16.05 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Sobótka. 17.00 Harcerskie popołudnie. 17.50 Przyp., radz. 17.55 Szare na złote. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Rzeka czerwona — film fab. Western. 22.20 Dziennik. 22.40 Sport. 22.55 Piłka nożna. Francja — Argentyna.

## КІНО

**Białowieża** Gappa — jap. 14—15. Ciemna rzeka — pol. 16—17. Horyzont — węg. 18—19.

**Czeremcha** Mężczyzna, który mi się podoba — fr. 14—15. Dziewczyna na miotle — czes. 18—19.

**Czyże** Spotkanie ze szpiegiem — pol. Sobótki — pol. 15—19.

**Dubicze Cerkiewne** Cudowny kożuszek — węg. Rewizja osobista — pol. 15—19.

**Gródek** Gorący śnieg — radz. 18—19.

**Kleszczele** Tygrysiątko — buł. 14—15. Królowa Dzikiego Zachodu — fr. 16—17. Bułeczka — pol. 18—19.

**Michałowo** Pojedynek na wietrze — jap. 14—15. Sklep z modelkami — USA 16—17. Milczące ślady — pol. 18—19.

**Mielnik** Kłopotliwy gość — pol. 14—15 Motocross — czes. 16—17. Godzina szczytu — pol. 18—19.

**Milejczyce** Przygoda na wagarach — NRD 14—15. Podróże z Jakubem — węg. 16—17. Monolog — radz. 18—19.

**Narewka** W pustyni i w puszczy — pol. I i II s. 15—19.

**Narew** Pechowy zalotnik — pol. Śladami czarnowłosej dziewczyny — jug. 15—19.

**Nurzec** Góry, rzeki, ludzie — pol. 14—15. Pamiętnik pani Hanki — pol. 16—17. Był sobie glina — fr. 18—19.

**Orla** Śmiałość — radz. Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 15—19.

**Rajsk** Dziewczyna z gór — jug. Szatnia pełna królików — węg. 15—19.

**Suchowola** Ogniomistrz Kaleń — pol. Pierwsze dni — pol. 15—19.

## Што новага? у ПЦК

Адбыўся VII ваяводскі з'езд ПЦК. З'ехалася сотня дэлегатаў. Гаварылі пра сваю працу і новыя планы, як лепш служыць чалавеку.

У пачатку 1974 года Чырвоны крыж у Беластоцкім ваяводстве меў 2.231 гурток з 151.949 членамі.

ПЦК вядзе шырокае санітарнае навучанне для моладзі і дарослых, у гарадах і вёсках. Працуюць санітарныя дружыны ПЦК, якія пасля пачатковых курсаў вучацца далей на спецыяльных, вышэйшай ступені, курсах. Школьных санітарных дружын працуе ў ваяводстве 127, а дарослых — 248.

За пяць год (ад VI да VII з'езду) ваяводскі аддзел ПЦК абвучыў 403 новых перадавікоў здароўя (гэтак называюцца жанчыны, якія прайшлі спецыяльны медыцынскі курс па першай дапамозе). У большасці яны працуюць на вёсках.

Санітарныя калектывы ПЦК праводзяць акцыю асветы і аховы здароўя, даюць першую лекарскую дапамогу. За пяць год ПЦК-оўскія спецыялісты далі першую лекарскую дапамогу 337.897 разоў. Яны таксама дыжурылі на санітарных пунктах ПЦК 58.629 разоў.

Перадавікі здароўя займаюцца апекай над хворымі ў хаце, супрацоўнічаюць са школамі, арганізуюць ганаровае крывядаўства. У мінулым годзе ў пяці паветах былі праведзены конкурсы чысціні ў злеўнях малака. Удзел у конкурсах прыняло 239 малачарняў. Школьныя гурткі ПЦК за пяць год правялі 13.210 конкурсаў чысціні.

Ганаровае крывядаўства — гэта асноўная праблема ў працы ПЦК. Аж у 70 працэнтах Беластоцкае ваяводства атрымлівае патрэбную кроў ад сваіх ганаровых крывядаўцаў, а паветы Замбраў, Элк, Ломжа, Гайнаўка, Бельск такім чынам пакрываюць гэтыя патрэбы поўнасцю.

За 1969-73 гады было атрымана 10.359 літраў крыві. Сваю кроў для хворых за гэты час дало 27.025 асоб, сярод іх 17 працэнтаў — гэта былі чыгуначнікі. У 1969 г. было сабрана 752 літры крыві, а ў 1973 годзе — 2.970 літраў. Ужо арганізаваліся нават клубы ганаровых крывядаўцаў — у іх 2.557 членаў.

Для заслужаных крывядаўцаў арганізуюцца бясплатныя заграгічныя экскурсіі (было іх ужо 47) у СССР, Венгрыю, Балгарыю, Югаславію, Румынію, а таксама краязнаўчыя экскурсіі па краіне.

ПЦК арганізуе і вядзе грамадскія пункты апекі над хворымі ў хаце, памагае самотным і іншым людзям у выпадку вялікіх няшчасцяў — паводак, пажараў. Сетка апекі над хворымі ў хаце пастаянна пашыраецца. У 1973 годзе апеку такую атрымала 567 асоб. Усё больш такая форма апекі развіваецца на вёсцы. У мінулым годзе ў Сухаволі ўзнік вясковы пункт апекі над хворымі ў хаце. Апеку вядуць сёстры пагатоўя ПЦК.

На дапамогу хворым і старым у 1973 г. ПЦК выдаткаваў 134.835 зл. Школьная моладзь памагла 3.581 асобам — старым і хворым. Школьнікі прыносяць ваду, дровы, пішуць лісты, наводзяць парадкі.

Узнікаюць гмінныя камітэты ПЦК. Некаторыя ўжо разгарнулі плённую дзейнасць. На асаблівую ўвагу заслугоўвае праца гміннага камітэта ПЦК у Орлі, дзе людзі ўжо два разы супольна давалі кроў. (вл)

### СТЭРЭАФАНІЧНАЯ ПРАГРАМА ПР У БЕЛАСТОКУ

Радыёвяшчальная станцыя Польскага радыё ў Беластоку пачала трансліраваць стэрэафанічную праграму.

У бліжэйшы час Беласток будзе трансліраваць праграму цэнтральнага радыёвяшчання. Але калі будзе гатовы новы цэнтр радыёвяшчання ў Беластоку, тады прадбачваецца, што ён пачне перадаваць уласныя стэрэафанічныя радыёперадачы. (ця)

### НОВЫЯ ПАЧАКАЛЬНІ ПКС НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У мінулым годзе на Беласточчыне было пабудавана 105 прыдарожных пачакальняў і вакзалаў ПКС, у асноўным у тых мясцовасцях, якімі найбольш зацікаўлены турысты.

У гэтым годзе прадбачваецца будова чарговых 120 новых пачакальняў, прычым перш за ўсё ў тых мясцовасцях, якія з'яўляюцца сядзібамі гмін. (ця)

### НОВАЯ ТЭЛЕФОННАЯ СТАНЦЫЯ Ў САКОЛЦЫ

У Саколцы аддадзена ў карыстанне аўтаматычная тэлефонная станцыя. Пабудавана яна за 13,7 млн злотых. Будзе цяпер лепшая тэлефонная сувязь у цэлым павеце. (ця)

У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Кладка на рацэ Нарве ў ваколіцах вёскі Адрыянкі.* *Фота М. Гайдука.*




## Навуковая сесія

Днямі ў Задрыпанцы адбылася навуковая сесія, прысвечаная ахове мясцовага асяроддзя. Гмінныя ўлады і задрыпанскі актыў пастараліся, каб на сесію прыехалі адменныя спецыялісты. Пры нагодзе выявілася, што можам ганарыцца не адным Колькам Рыжым, ды Алёшкам Жарабцом (запрашалі на сесію толькі блудных сыноў Задрыпанкі з навуковым стажам), прыехалі тузы гаспадарання прыроднымі рэсурсамі даслоўна ўсіх галін. Біёлагі, эколагі, прыродазнаўцы, гідратэхнікі, меліяратары, прадстаўнікі прамысловасці і адміністрацыі.

І калі ласка: гаварыце, што, рабіць, як спалучыць гаспадарчую праграму з неабходнасцю — так, неабходнасцю, а не эвентуальнасцю — захавання прыродных багаццяў сваёй Бандэрозы.

Няраз удзельнічаў я ў падобных сустрэчах, але дагэтуль не сустракаў такіх жывых спрэчак. Заўзятыя абаронцы прыроды, падыходзячы да пытання эмацыянальна, прапанавалі нагул вылучыць Задрыпанку і захаваць яе ў сённяшнім выглядзе (некранутым задрыпажэрнымі зубамі тэхнакрацкага часу — доктар Расціслаў Салавейчык). З другога боку, з увагі на эканамічную актывізацыю гміны, не можна сабе дазволіць на поўнае выключэнне Задрыпанкі з планаў гаспадарчага развіцця (неразуменне ролі сучасных актывізуючых стымулаў не менш задрыпажэрнае — доктар габілітаваны Радзівон Сілікатун).

Дацэнт доктар Цімох Скок пытанне вырашаў шляхам буйнага развіцця турыстыкі (пакліканць „Задрыптурыст", на загуменнях выкапаць вадасховішча — Задрыпанскае мора, заснаваць задрыпяхтклуб, пабудаваць пляж і прынамсі, на пачатак, парачку „Форумаў").

Прафесар доктар Трафім Кузачка ўскосна падтрымаў доктара габілітаванага Радзівона Сілікатуна, даказваючы, што ўмелае гаспадарчае ўмяшанне неабавязкова павінна парушыць унікальнае задрыпанскае асяроддзе. Толькі тут, гаварыў ён, неабходнае цеснае супрацоўніцтва навукоўцаў з практыкамі.

Гэты пункт гледжання і перамог. Па прапанове начальніка гміны ўдзельнікі сесіі аднадумна вылучылі з ліку свайго Кансультацыйны навуковы савет (КНС), які апрацуе дакладную праграму аховы задрыпанскага асяроддзя да 1990 года і прадставіць яе на абмеркаванне гміннай радзе.

Скажаце, не навасць у нашай практыцы: ужо, мауляў, падобныя праграмы маюць гарадскія агламерацыі і цэлыя макрарэгіёны. Не прыкмецілі вы слана. Дагэтуляшнія намаганні ішлі ў напрамку ліквідацыі адмоўных вынікаў індустрыялізацыі, сэнс нашага змагання (задрыпанская своеасаблівасць) — перш за ўсё ў прафілактыцы.

Склалася шкоднае меркаванне, што Задрыпанцы далёка яшчэ да драмы і рашучага ўмяшання можна пачакаць. Гаспадары гміны лічаць аднак (і правільна!), што чакаць нельга. Гэта і пацвердзіла навуковая сесія. Празорцы!

**ДЗЗ**




## Пра межы гераізму

У сёлетнім другім нумары „Месячніка літэрацкага" змешчан рэцэнзійны артыкул Эдварда Паўляка **„Сотнікаў" або межы гераізму"**.

Паўляк заўважае:

„У творчасці беларускага пісьменніка Васіля Быкава, які лічыцца зараз выдатным прадстаўніком савецкай ваеннай прозы, звяртае ўвагу камерная танацыя, з прыцішаным шумам бітваў дзеля лепшага паказу чалавечых характараў у іх разнабаковым псіхалагічным плане. У „Трэцяй ракеце" і творах, сабраных у том „Альпійская балада", Быкаў паказвае, як перад аблічцам смерці правяраюцца духоўныя вартасці чалавека, ягоная мараль, а таксама біялагічная ўстойлівасць на боль ды пакуты. У гэтым найбольш цяжкім жыццёвым выпрабаванні, калі інстынкт самазахавання выяўляецца з падвойнаю сілаю, знікаюць прытворнасці, ападаюць маскі, ламаюцца і фармуюцца этычныя кодэксы герояў. Проза Быкава з'яўляецца натхнёнай ды бескампраміснай размоваю пра чалавечыя ўчынкі. Пісьменнік з незвычайнай пранізлівасцю знаходзіць прычыны трусасці і здрады, боязі і ўцёкаў, адвагі і геройства, адмерваючы межы паміж адным і другім. (...) Беларускага пісьменніка цікавяць перш за ўсё маральныя канфлікты..."

Паўляк, адклікаючыся таксама да меркаванняў савецкай крытыкі (м.ін. Краснасцёкавай), гаворыць аб біялагізме Рыбака, у якога „...вялікае жаданне перажыць натыкаецца на небяспечны рыф, бо не грунтуецца яно на моцна ўсвядомленых маральных нормах, этычных аксіёмах, якія дазваляюць захаваць чалавечнасць у найбольш трагічных хвілінах".

Рыбак, „добры партызан" і былы „добры сержант" усё паставіць на ўласны спрыт і хітрасць, адкіне салдацкі гонар і ў барацьбе за сваё жыццё загубіць усялякія сувязі. Мараль Рыбака была ўрэгулявана наказамі **„так трэба"** і таму ён, апынуўшыся вока ў вока са смерцю, пахіснецца і заломіцца.

„Шыбенічны шнур на шыі Сотнікава будзе пазнакаю ягонай чалавечнасці, а „абхітрэнне" лёсу Рыбаком вырашыць аб ягонай катастрофе", — сцвярджае Паўляк.

На заканчэнне варта заўважыць, што артыкул Паўляка з'яўляецца другой — за „Культурай" ад 17.II.74 — сур'ёзнай публікацыяй аб творчасці выдатнага беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Сведчыць гэта аб хуткім нарастанні ў польскага чытача зацікаўлення беларускай літаратурай.

**Сакрат Яновіч**

# Вялікі дзень міхалоўскай школы

Пачатковая васьмікласная школа ў **Міхалове** Беластоцкага павету 20 красавіка 1974 года перажывала свой вялікі дзень — ва ўрачыстай атмасферы ёй прысвойвалася імя Уладзіслава Сыракомлі. Хоць пакрапваў дождж са снегам і дзьмуў халодны вецер, але ўзнёслы характар урачыстасці саграваў усіх сабраўшыхся на школьным пляцы — звыш паўтысячную грамаду міхалоўскіх школьнікаў і шматлікіх гасцей.

— Удзельнічаем мы сёння ва ўрачыстасці, якая з'яўляецца вялікім гонарам для нашай школы і яе выхаванкаў, — падкрэсліла, адкрываючы мітынг, дырэктар школы мгр **Крыстына Марголь.** — Школа атрымоўвае імя Уладзіслава Сыракомлі — польскага паэта, непарыўна звязанага з народам і спачуваючага народу. Найбольшую грамадскую несправядлівасць бачыў паэт у непісьменнасці сялян і сваім пяром змагаўся за пашырэнне асветы на вёсцы. Яго мары маглі здзейсніцца толькі пасля цэлага стагоддзя, цяпер, пры народнай уладзе, калі на вёсках паўсталі тысячы школ, а наша ў Міхалове атрымала яго імя.

Інспектар аддзела асветы, выхавання і культуры Павятовага ўпраўлення ў Беластоку мгр **Аляксандр Трусяк** прачытаў акт прысваення школе імя Уладзіслава Сыракомлі.

Начальнік Беластоцкага павету мгр **Васіль Гулько** ўрачыста адкрыў мемарыяльную табліцу, якая сваімі залатымі літарамі будзе напамінаць кожнаму, уваходзячаму ў муры школы, што яна носіць імя славутага „вясковага лірніка".

— Школа не выпадкова атрымала якраз імя Уладзіслава Сыракомлі, — заўважыў В. Гулько. — Няхай нашым маладым пакаленням ён будзе ўзорам любві і пашаны да працоўных і роднай зямлі.

У літаратурна-песенным мантажы старшакласнікі міхалоўскай школы напомнілі жыццёвы і творчы шлях паэта. Нарадзіўся Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) 29 верасня 1823 года ў мястэчку Смаргонь на Міншчыне.



*Урачыстасць адкрыла дырэктар міхалоўскай школы мгр Крыстына Марголь.*

Талент польскага паэта вырас на беларускай глебе і ўвабраў у сябе народную мудрасць і мары беларускага сялянства. Сівая мінуўшчына Польшчы і Беларусі, іх воля барацьбы за лепшае заўтра — вось асноўныя матывы творчасці У. Сыракомлі. Памёр паэт 15 верасня 1862 г. у Вільні. З вялікай пашанай адносіўся ён і да беларускай мовы. „Я таксама быў навучыўся крывіцкай (беларускай) мове і валодаў ёю з пэўнай элегантнасцю, ведучы бяседу з шаноўным сялянствам Жукавага Барка", — піша паэт у сваіх „Лістах з Беларусі". Не цураўся ён і паэтычнай творчасці на беларускай мове. А словы з беларускага верша У. Сыракомлі:

„Гудуць вясёла і песні і танцы
У добрым жніве на шчаслівы год"

як жа ж сталі актуальнымі ў Міхалове, калі пасля багатай мастацкай часткі з дэкламацыямі вершаў паэта, з песнямі на яго словы і народнымі танцамі, ужо перад сабраўшыміся ў кабінеце дырэктара школы настаўнікамі і гасцьмі, намеснік інспектара аддзела асветы, выхавання і культуры Беластоцкага павету мгр С. Крэнтоўскі разгарнуў тоўсты том тэхнічнай дакументацыі новага прасторнага будынка гміннай школы, які неўзабаве пачне ўзводзіцца ў Міхалове.

Дзень 20 красавіка 1974 года — гэта быў вялікі дзень у гісторыі міхалоўскай школы.

**Ігнат Снарскі**
**Фота аўтара**



*Школьны хор спяваў песні на словы Уладзіслава Сыракомлі.*

# ШТО ЗРАБІЛІ І ШТО БУДЗЕМ РАБІЦЬ

У канцы 1973 года было на Сакольшчыне 213 сельскагаспадарчых гурткоў з 6.478 членамі і 198 гурткоў вясковых гаспадынь з 4.150 членамі.

За апошнія гады гурткі вясковых гаспадынь арганізавалі 47 конкурсаў па вырошчванню гародніны. Удзел у іх прынялі 582 жанчыны. У 32 гуртках было зроблена 640 парніковых вокан. Было створана 13 супольных пунктаў гадоўлі куранят і выгадавана 7.250 штук 6-тыднёвых курэй. У конкурсе гігіены хлявоў, прадукцыі малака, гадоўлі цялят прыняло ўдзел 300 жанчын з 35 гурткоў. Летам было арганізавана 107 дзяцінцаў і 9 яслевых груп, у якіх было 1052 дзяцей ад 2 да 8 год. Сельскагаспадарчае навучанне правяло 70 гурткоў, удзельнічала 600 жанчын. Яны вучыліся рацыянальна карміць жывёлу і свіней, хадзіць каля гародаў, варыць, смажыць рыбу, рабіць катлеты, квасіць гуркі, кроіць і шыць вопратку, гадаваць курэй і г.д.

Дзейнасць сельскагаспадарчых гурткоў Сакольшчыны накіравана на развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі і загаспадарванне ўсіх зямель дзяржаўнага фонду зямлі. У канцы 1973 года сельгасгурткі мелі 541 трактар з саставамі, у тым ліку 129 трактараў у супольным карыстанні, 37 камбайнаў, 200 абмалотачных агрэгатаў, 318 снопавязалак, 279 бульбакапалак, 152 апырсквачы, 119 касярак. Але ўсяго гэтага яшчэ замала, і ў апошнія два гады сельгасгурткі не маглі забяспечыць усіх трактарамі.

Гурткі, якія вядуць механізацыйную дзейнасць, маюць добрыя гаспадарчыя вынікі. Да такіх можна залічыць СКР Янаў, МБМ Крынкі, МБМ Карыцін, сельгасгурткі ў Саколцы, Гуранах, Здрoі, Яцаўлянах, Слойцы, Талькоўшчыне, Крушынянах, Гаркавічах, Бабіках. Былі і такія гурткі, дзе выступіла шмат занядбанняў у арганізацыі працы. Да такіх гурткоў належаць Паплаўцы, Бомбля, Зубрыца Вялікая, Сякерка, Панятовічы, Ялоўка, Кузніца, Геніюшы. Кіраўніцтва гэтых гурткоў падвяло. Часта бывала там, што дыспетчар не ведаў, што робяць трактарысты, а некаторыя гурткі ўвогуле не мелі трактарыстаў ці дыспетчараў. Заданне на 1974-75 гады — гэта наладзіць працу ў слабых гуртках, выбраць новых людзей, якія добра пакіруюць дзейнасцю.

У бліжэйшыя два гады ў сакольскіх сельгасгуртках будзе многа будавацца. Новыя сельскагаспадарчыя аб'екты вырастуць у Востраве Паўночным — хлеў на 580 свіней, у Гуранах — хлеў на 200 авечак, у Піражках ужо будуецца хлеў на 360 свіней. У сельгасгуртках Востраў Паўночны, Гураны і Піражкі будуць пабудаваны артэзіянскія калодзежы і праведзены водаправоды да ўсіх гаспадароў. У спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Янове будзе пабудаваны адміністрацыйны будынак і жылыя дамы.

Сельскагаспадарчыя гурткі Сакольшчыны працавалі на 3.440 гектарах зямлі дзяржаўнага фонду, 606 гектараў з якіх яны прынялі ў 1972-73 гадах. За два гады сельгасгурткі выпрадукавалі і прадалі 7411 тон збожжа за 28 мільёнаў зл. Найлепшых гаспадарчых вынікаў на дзяржаўным фондзе зямлі дабіліся гурткі ў Гуранах, Піражках, Крынках, Востраве Паўночным, Востраве Паўднёвым і Крушынянах. У бліжэйшыя два гады гурткі прымуць яшчэ 600 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі.

У 1973 годзе сельгасгурток у Востраве Паўночным распачаў гадоўлю свіней. Ад ліпеня да канца снежня яны выкармілі 92 свінні — прадалі 9.350 кг мяса. У наступныя два гады плануецца выкарміць у гуртках у Востраве Паўночным, Піражках, Гуранах і Слойцы 1 400 свіней і 200 авечак — гэта каля 150 тон мяса.

Яшчэ пару слоў аб недахопах. Не хапае заменных часцей да машын, часта малых, як шрубы, тулейкі і г.д. Сакольскім гурткам не хапае 130 трактарыстаў. Клопаты з трактарыстамі аднак будуць часткова ліквідаваны, калі закончаць курс новыя кадры трактарыстаў.

**Т. К.**



*Прыемна пачакаць аўтобуса вось на такім паўстанку (на скрыжаванні дарог за Сямяцічамі).*

**ТУРСЕЗОН-74**

## ЧЫМ І ЯК ЕЗДЗІЦЬ

На ўсіх турыстычных шляхах Беласточчыны робяцца парадкі. У вёсках, якія ляжаць на трасах, асаблівая ўвага звернута на ўпарадкаванне тратуараў, аднаўленне платоў, а таксама на адпаведнае асвятленне вуліц. У тым выпадку, калі ўладальнікі памяшканняў не могуць выканаць неабходных работ для іх, арганізуецца спецыяльная дапамога ў форме крэдытаў ПЗУ, а таксама рабочых брыгад.

На туршляхах будуюць новыя стаянкі аўтамашын. Такая стаянка будуецца на шляху Гайнаўка—Белавежа. У карыстанне турыстам будзе яна перададзена 22 ліпеня г.г. Стаянкі паўстаюць таксама ў Грабуўцы і Рыбалах-Плёсках Беластоцкага павету, а таксама ў Звярынцы, Заячніках і Таме.

Намнога лягчэйшым стане падарожжа поездам. У новым расписанні паяздоў (якое неўзабаве ўвойдзе ў жыццё) уведзен хуткі поезд Беласток — Шчэцін праз Гдыню — Кашалін. Яго шлях будзе прадоўжаны да Кузніцы, што аблегчыць турыстычны рух Польшча — СССР. Прадоўжан таксама да Кузніцы шлях хуткага поезда „Нараў“, уведзены ў яго склад два спальныя вагоны да Вільнюса. Беласточчына мае таксама чыгуначную сувязь са Шлёнскам і Кракавам хуткім поездам „Вігры“, які курсуе тры разы ў тыдзень.

У гэтым годзе будуць пабудаваны 134 аўтобусныя паўстанкі. (ак)

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Муж працаваў у горадзе, а жонка з дачкой пражывалі на сельскай гаспадарцы ў вёсцы. Жонка памерла ў 1962 годзе, а суд сцвердзіў, што наследнікам сельскай гаспадаркі па ёй з'яўляецца яе дачка. У 1970 годзе муж быў прызнаны інвалідам II групы і хоча вярнуцца ў вёску на гаспадарку. Аднак дачка хоча прадаць гаспадарку. Ці мужу прыслугоўваюць правы да гаспадаркі, або да ўдзелу ў грашах, якія атрымае дачка за гаспадарку?

АДКАЗ: Аб тым, каму прыслугоўвае права на гаспадарку, вырашае суд. У даным выпадку суд прызнаў, што наследнікам сельскай гаспадаркі з'яўляецца дачка, якая пражывала з маткай на гэтай гаспадарцы. Паколькі рашэнне суда з'яўляецца правамоцным, яно не прадугледжвае магчымасці, каб муж дабіваўся тут праў, нават, калі б рашэнне суда было нязгодна з правам, г.зн. калі б нават, згодна з законам, мужу прыслугоўвала права на гаспадарку. Ён павінен быў абскардзіць рашэнне суда, якім сцверджана права толькі яго дачкі, пакуль яно не было правамоцнае. Ужо з увагі на вышэй сказанае, муж не можа мець ніякіх прэтэнзій да дачкі, бо сельская гаспадарка прыпадае выключна ёй.

У даным выпадку рашэнне суда было згоднае з законам. Факт, што муж ад 1970 г. з'яўляецца інвалідам, не мае значэння. Інвалід II групы, хоць бы не працаваў ніколі на сельскай гаспадарцы, мае права на спадчыну ў сельскай гаспадарцы толькі тады, калі быў ужо інвалідам у момант смерці спадкадаўцы, а калі спадкадаўца памёр перад 1962 г., то права на гаспадарку прыслугоўвае толькі тым, што былі інвалідамі I або II групы перад 5 ліпеня 1963 г.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ВЯСНЯНКА*

*(„РОГУЛЬКА“)**




*Святы Юрэ-Рыгорэ,*
*Святы Юрэ-Рыгорэ,*
*Пойді до Бога по ключы,*
*Пойді до Бога по ключы.*
*Ой, одомкні, зэмліцу,*
*Ой, одомкні, зэмліцу,*
*Ой, выпусть, выпусть травіцу,*
*Ой, выпусть, выпусть травіцу,*
*Прыкрый зэмліцу травою,*
*Прыкрый зэмліцу травою,*
*А дэрэво лісточком,*
*А дэрэво лісточком,*
*Нас молодэнькіх віночком,*
*Нас молодэнькіх віночком.*
*Як настанэ месяц май,*
*Як настанэ месяц май,*
*Пожэнэм волы пасті в гай,*
*Пожэнэм волы пасті в гай.*
*Там зэльечка нарвэмо,*
*Там зэльечка нарвэмо —*
*Собе віночкі пов'емо,*
*Собе віночкі пов'емо.*
*І на головкі зложэмо,*
*І на головкі зложэмо.*
*І до таночку пойдэмо,*
*І до таночку пойдэмо!*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

*„Рогулькі“ спявалі калісьці дзяўчаты вечарам, на вуліцы ў часе ад Вялікадня да правадной нядзелі (сем дзён).

## З маёй званіцы

## Смех сказаць — страх падумаць

Зірнуўшы на дзяўчат і хлапцоў, якія штодзень спяшаюцца ў пачатковыя і сярэднія школы, сэрца цешыцца. Павырасталі маладыя, быццам бы іх хто за вушы падцягваў угору альбо драждажамі падкармліваў. Вядома, лепшыя ўмовы жыцця, лепшыя харчы — таму і дзеткі буяюць, воку на радасць — бацькам на пацеху.

Толькі ці гэта ўсё? Не памылюся, калі скажу, што сёння большасць таткаў і мамак марыць пра тое, каб сыны іх ці дачушкі не толькі сярэднія школы закончылі, а каб яшчэ і вышэйшую асвету ў розных там універсітэтах, палітэхніках ці акадэміях здабывалі.

І так быць павінна. Трэба каб людзі перад сабой ўсё вышэйшыя мэты ставілі, да большага імкнуліся. „Мер сілы на намеры“, — сказаў паэт. А вось толькі ці ім гэтых сіл якраз хопіць? Ці бацькі сабе ўяўляюць, колькі энергіі, колькі цяжкай, карпатлівай працы вымагае ў сённяшні час навука? Якое трэба мець жалезнае здароўе і вытрымаласць, каб справіцца з усімі школьнымі абавязкамі, а часам яшчэ падзарабіць крыху? І гэта не пад мацярынскім крылышкам, а пераважна на казённых, як кажуць, харчах. І не месяц, не два, а шмат гадоў безупынку.

А што бывае? Паступае, ведаеце, у вышэйшыя навуковыя ўстановы часта моладзь, да жыцця зусім не падрыхтаваная. Тут не ў тым ужо справа, што на матчыны рукі аглядацца прывыкшая — ні гузіка прышыць, ні перамыць дзе што. Сорамна, ведаеце, бывае наглядаць, як на першых занятках па фізкультуры рослыя, здаровыя, здаецца, хлопцы падбрыкваюць вяла атлусцеўшымі азадкамі і 90 см, скажам, у вышыню дзягнуць не могуць. А падбяжыць такі крыху і ўжо сапе з натугі, быццам бы цэлы дзень лапатаю варочаў.

А пра дзяўчат і гаварыць няма чаго. Усе, здаецца, задаткі ў такой паненачкі на зграбную фігуру, а ўжо на ўсіх акруглясцях і выпукласцях дадатковыя кілаграмчыкі наліплі, прыемнае ўражанне псуюць. А колькі іх згорбленых, крывагрудых, з перакошанымі ад цяжкай школьнай торбы плячыма! Ну, хоць ты сеўшы — плач. Прыгляньцеся самі, колькі іх бродзіць па вуліцах, непаўналетніх, неаперaных яшчэ старцаў, якія замест моцных мускулаў рэдзенькія бародкі паадгадоўвалі.

Колькі пар шырачэзных клешняў нялепа ляпешча наўкруга хвораставпадобных лыдак ды ляжак. Загляньце ў абы-якое кафе і пабачце, колькі іх, жаўтадзюбых куранят, пры століках бойкімі пеўнямі пушыцца, гордымі нясушкамі кудахкае, захлынаецца папяросным дымам, каваю папярхаецца.

А тады задумайцеся. Ці варта высачэзнага аболтуса, за ручку да лекара прывалокшы, прасіць, каб той яго ад заняткаў па фізкультуры звольніў. Бо то хіленькі ён у вас, за бацьку ледзьве на галаву вышэйшы, бо то анемічны і апетыту не мае, увамне на снеданне каўбасы кілаграмчык і што больш не давай — да самага абеду нічога ў рот ўзяць не хоча. Ці то варта кляньчыць, каб дачушка ваша, дзіцятка беднае, якое ў таліі ўдваіх не абымеш, спортам не займалася, з іншымі школьнікамі бульбы капаць не ездзіла.

„У здаровым целе — здаровы дух“, — казалі калісьці. І мудра казалі. Глядзіце. Бо лепшага часта дзецям жадаючы, фізічна непаўнацэннымі іх росціце. І калісь, калісь, паверце, на вас яны наракаць будуць.

**Ларс**






* ※ *

Шум
грукат
вочы разбягаюцца
ў бакі
людзі сціскаюць
рукі смерці
смех і плач
роспач і радасць
шчасцем напоўнены
вочы
усё зліваецца
у адзін вобраз
вобраз сталіцы.

**Ніна Матысюк**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Чалавечыя разважанні

Я ўсцяж жыву
і жыць буду вельмі доўга
праз цяг вякоў
і тысячагоддзяў...
Пра смерць не думаю —
яна не перашкода...
Калі трухнее пень —
адростам маладнее новым
і будзе жыць далей,
каб будучае ўбачыць...
Так я, пакуль памру,
пачну ўжо жыць аднова,
Як прад стагоддзямі
мінулымі бывала...
Даўжэзны шлях жыцця —
ён не памрэ ніколі,
Усцяж будзе прыгажэць
напрамкам нашай волі!..
Ды хоць не ўсё
пад сілу памяці кароткай,
Я знаю, як было,
а ведаю ад продкаў.
А будзе як?
На гэта без сумненняў
адкажа мне
рад новых пакаленняў...

**Ул. Шклярук**

## Дарога жыцця

Хто ішоў наперад,
І дарогі сваёй не знайшоў,
А ведаў, што яна ёсць,
Чаму ж заблудзіў?

Па такой дарозе простай,
Якой жыццё людское ёсць...
Не! Жыццё людское —
Звілістая і цяжкая дарога.

Па ёй трэба ісці
З компасам у руках,
Жыццё памылкай быць не можа,
Бо ёсць яно толькі адно.

**С. Сцепанюк і П. Пракапчук**




### ПРЫЧОСКІ

Надыйшла пара года, калі ўрэшце валасы нашыя могуць адпачыць. Адпачыць у тым сэнсе, што ходзім мы без галаўных убораў, аднак не абазначае гэта, што мае быць наша галава занядбаная, непрычосаная.

У пагоні за модай многія жанчыны адносяцца бескрытычна да сваіх прычосак і формы галавы. Часта, хочучы быць цудоўна прычосанымі, яны забываюцца, што прычоска, скапіраваная нават з найлепшых узораў, можа аказацца нядобрай, калі не будзе гарманічнай з формай галавы, з рысамі твару, а нават з постаццю жанчыны. Падборка адпаведнай прычоскі, якая падкрэсліла б прыгажосць жанчыны і затушавала б некаторыя яе недахопы, з'яўляецца вельмі важнай справай.

Змешчаныя ніжэй прыклады правільнай і няправільнай прычоскі дазволяць жанчынам пазбегнуць многіх памылак.

**1. Форма галавы падоўжаная.** Валасы павінны быць так прычосаны, каб пашыралі галаву (мал. 1). Прычосванне валасоў высока над ілбом яшчэ больш падоўжыць твар (мал. 2).




**2. Галава, пашыраная зверху, звужаная ўнізе.** Валасы павінны гладка ападаць на скроні, а толькі ніжэй, каля вушэй і ніжэй іх павінны локанамі пашыраць звужаючыся ў гэтым месцы твар (мал. 3). Валасы, якія былі б прычосаны над вушамі, яшчэ больш падкрэслілі б няправільны „трохкутнік" твару (мал. 4).

**3. Круглая форма галавы.** Яе можна паправіць, прычосваючы валасы высока ўверсе (мал. 5), усялякае ж разлажэнне локанаў па баках твару можа прывесці да таго, што твар будзе выглядаць яшчэ шырэй (мал. 6).

**4. Галава, звужаная ў верхняй частцы.** Гэта быў бы прыклад, супрацьлеглы да прыкладу другога. Таму тут трэба прымяніць і супрацьлеглы прынцып: валасы павінны быць пушыстыя ў верхняй частцы галавы (мал. 7), не варта аднак размяшчаць валасы каля вушэй і ніжэй іх (мал. 8).

Пададзеныя намі прынцыпы, зразумела, не абазначаюць, што трэба абсалютна адмовіцца ад пануючай ў прычосках моды. Гэта не абмяжоўвае нават магчымасці нейкай прычоскі з фантазіяй. Перасцерагае, аднак, жанчын перад міжвольнымі памылкамі.

**Сяброўка**




*Лука Гайнаўскага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага*




*Дарагое „Сэрцайка"!*

Я ўжо не маладая. Мне 40 год. Выйшла я замуж, як толькі мне споўнілася 18 год, а муж быў толькі на тры гады старэйшы. Хутка нарадзілася ў нас дачка. Цяжка было мне, нявопытнай, маладой дзяўчыне выконваць абавязкі гаспадыні, жонкі, маці, а дапамагчы ці параіць не было каму, бо я сірата. Матэрыяльна таксама было цяжкавата. Муж працаваў адзін, нямнога зарабляў і завочна вучыўся. Так пражылі мы пяць год. Муж закончыў тэхнікум, змяніў працу, пабольшыліся заробкі. Але і сам змяніўся. Часта вырываўся з хаты. Потым я даведалася, што ходзіць ён да разведзенай жанчыны. Пачаліся сваркі, непаразуменні, далучыліся яшчэ і плёткі суседзяў, і праз год мы разышліся. Ад той пары я жыву толькі з дачкой. Дачка вучылася добра і, закончыўшы сярэднюю школу, пайшла вучыцца далей у Варшаву. Я сама жыву ў павятовым горадзе. Муж выехаў у іншы горад адразу пасля разводу. Плаціць аліменты і час ад часу прыязджае наведаць дачку. Да гэтай пары жыве адзін, не ажаніўся. Мне было сумна, надакучыла адзіноцтва. І вось пачаў заляцацца да мяне мужчына, таксама разведзены. Пару год таму назад пакінуў ён жонку і двое дзяцей. Ён мне спадабаўся, хаця чула я, што круціць ён і з іншымі жанчынамі. Тым часам мой былы муж таксама нядаўна прыехаў да мяне і кажа, што хацеў бы вярнуцца назад. Ужо і працу ў нашым горадзе аформіў. Не ведаю, як паступіць, ці пакінуць гэтага мужчыну, хаця ён і падабаецца мне, а зыйсціся з мужам, ці наадварот. Парай, „Сэрцайка"!

**Анна**

Анна! Згодна я з табой, што адзінокае жыццё нецікавае, і надакучыла ўжо табе адной жыць. Напэўна варта звязацца з кімсьці, але каб чалавек гэты быў пэўны, каб не расчаравацца яшчэ раз. Мне здаецца, калі выбіраць з гэтых двух — дык мужа. Да гэтай пары ён не ажаніўся, дык і яму самотнасць, пэўна, абрыдла, калі прыйшоў да вываду, што найлепш вярнуцца да сям'і. Гэта і табе муж і дачцы бацька, і ўвогуле чалавек, якога ты ведаеш лепш. Гэты другі, што нядаўна пакінуў двое дзяцей і жонку, ды і цяпер не з адной круціць — бадай, не надзейны.

**„Сэрцайка"**







...Да шлагбаума імкліва падляцеў **„віліс"**. Ён рэзка тармазнуў, амаль клюнуўшы носам у жардзіну. За рулём сядзеў маёр, больш нікога ў машыне не было.

— Прывітанне чэкістам! — бадзёра крыкнуў ён. — Ну і пунктуальны вы народ, ніяк міма вас не праскочыш.

— Прашу прад'явіць дакументы, — афіцыйным тонам патрабаваў Дзегцяроў, прыкладваючы руку да пілоткі. Жартаваць у яго не было настрою. Падышоў Снапкоў, стаў побач, але ў дзеянні Дзегцярова не ўмешваўся, сачыў за маёрам.

Дзегцяроў паглядзеў на пасведчанне маёра і адчуў, што зараз або рассмяецца, альбо вылаецца. Лёс быццам здзекваўся з яго, падаслаўшы яшчэ аднаго чалавека з дакументамі спецатрада. Дзегцяроў працёр раптам запатнелыя акуляры і, не даючы веры сваім вачам, зноў уважліва перачытаў усе лісцікі пасведчання. Сумненняў не было. Маёр Базарын, 1912 года нараджэння, памочнік начальніка штаба спецыяльнага атрада... Што ж рабіць? Затрымаць і яшчэ раз набрацца сораму, як тады з сержантам? Не, трэба самому разабрацца тут, на месцы.

Доўга і скрупулёзна вывучаў ён пасведчанне, час ад часу пазіраючы на маёра. Прыкметы нібыта супадалі: сярэдні рост, стройны, малайцаваты, і з спецатрада. Але ж і ў таго сержанта ўсё супадала, а аказалася...

— Ці нельга хутчэй, спяшаюся, справа гарыць, — ветліва папрасіў маёр.

— Адну хвілінку, таварыш маёр.

Дзегцяроў, яшчэ раз пагартаўшы пасведчанне, перадаў яго Снапкову, а сам папрасіў у маёра іншыя дакументы.

Маёр моўчкі выняў атэстат, даведку аб раненні, пасведчанне аб узнагароджанні ордэнам Чырвонай Зоркі. Але прагляд і гэтых дакументаў нічога не даў.

— Вы член партыі, таварыш маёр? — спытаў Дзегцяроў.

— Так, вядома.

— Дазвольце, калі ласка, ваш партыйны білет.

— Па-мойму, гэта ўжо занадта, — прабурчэў маёр, — партбілет не такі дакумент, каб прад'яўляць яго вартавым і міліцыянерам.

Дзегцяроў адчуў, што ён чырванее. Зноў плюхнуўся ў лужу. Сапраўды, навошта яму спатрэбіўся партбілет? Калі ўсе дакументы падроблены так чыста, дык, напэўна, і з партбілетам будзе ўсё ў парадку. Аднак адступаць ужо было нельга. Патрабаванне прад'яўлена — яно павінна быць выканана. Такія правілы службы.

— Тут не месца для спрэчак, таварыш маёр, — цвёрда сказаў Дзегцяроў, — прашу білет.

Злосна фыркнуўшы, маёр дастаў чырвоную кніжачку і працягнуў Дзегцярову. Той уважліва пераглядзеў кожны лісток і перадаў Снапкову. Нічога падазронага. Але Снапкоў не спяшаўся: людзей з дакументамі спецатрада трэба было правяраць асабліва ўважліва. Ён яшчэ прагледзеў білет, прачытаў усе запісы і раптам, сунуўшы кніжачку ў кішэню сказаў:

— Таварыш маёр, вы затрыманы нарадам. Прашу выйсці з машыны і здаць зброю!

— Ну-ну-ну! — пагрозліва прыўзняўся маёр.

— З машыны, хутка! Ну! — Снапкоў наставіў аўтамат, ляснуў затворам.

Дзегцяроў нічога не разумеў, але дзейнічаў так, быццам усё, што здарылася, ён прадбачыў наперад. Ён выняў з кабуры маёра пісталет, а з машыны — аўтамат і гранаты. Абяззброенага афіцэра адвёў у вартаўнічую будку і замкнуў.

— Вы мне за гэта адкажаце! — бушаваў затрыманы. — Я знайду на вас управу.

— У чым справа, Пётр Васільевіч? — спытаў Дзегцяроў Снапкова. — Знайшлі што-небудзь?

— Знайшоў, Лёша, знайшоў. Ты гісторыю партыі вывучаў? А памятаеш, быў час, калі прыём у партыю часова спыніўся. Памятаеш? Дык вось, у канцы трыццаць пятага года не прымалі ў партыю. Я гэта не з гісторыі, а з жыцця ведаю. А тут глядзі...

Снапкоў перадаў Дзегцярову партбілет затрыманага. „Час уступлення ў ВКП(б), — прачытаў Дзегцяроў, — снежань 1935 года".

— Сапраўды няўвязка. Як жа гэта я...

— Такую няўвязку заўважыць цяжка, Лёша, — усміхнуўся Снапкоў. — Гітлераўскія фальшыўчыкі, бачыш, таксама не звярнулі ўвагі на гэткую дробязь...

Неўзабаве прыехаў выкліканы з заставы Глебаў.

— Таварыш капітан, я патрабую заклікаць да парадку вашых занадта старанных падначаленых, — накінуўся на яго маёр. — Іначай і вы будзеце адказваць за іх дзеянні.

— Спакойна, таварыш маёр, зараз разбярэмся і папрашу не крычаць, — адказаў Глебаў і ўзяў дакументы затрыманага.

— Скажыце, таварыш маёр, калі вы ўступілі ў партыю?

— У партбілеце чорным на белым напісана: у снежні 1935 года.

— Так тут напісана. Але справа ў тым, што ў гэты час у партыю не было прынята ніводнага чалавека. Прыём часова быў спынены па рашэнню Цэнтральнага Камітэта. Калі для вас зрабілі выключэнне, тады скажыце, як і чаму?

Маёр моўчкі пазіраў на Глебава.

— Ну што ж вы маўчыце? Гаварыце, растлумачце. Можа, якая памылка ў дакуменце, памылка друку, так сказаць?

Маёр маўчаў.

Глебаў пагартаў партбілет і схаваў у кішэню.

— Ліпа ўсё гэта. Вашы майстры па дакументах гісторыі не ведаюць... Ну, на сёння хопіць. Затрыманага ў машыну.

— На гэты раз мы, здаецца, не прамахнуліся, — сказаў Снапкоў Дзегцярову, калі ўсе паехалі. — Па-мойму, гэты гусь з той тройкі, і, відаць, самы тлусты. Так, так, вось дык гісторыя.

А праз пару дзён штаб павіншаваў заставу з паспяховай ліквідацыяй парашутыстаў, закінутых на яе ўчастак. На гэты раз Снапкоў і Дзегцяроў сапраўды не прамахнуліся.

**(Працяг будзе)**

## РАМБРАНТ

Змоўклі апладысменты. Старшыня выставачнай камісіі пасля ўступнага слова разрэзаў чырвоную стужку, і выстаўка твораў мастака Панцеляймона Каваля была адкрыта. Усе прысутныя пацягнуліся за начальствам у залу.

Ля ўваходу затрымаліся трое: жанчына чагосьці корпалася ў сваім партфелі, а двое мужчын размаўлялі:

— Як ты думаеш, Сымоне, чаму Кавалю ўсё ж удалося выставіцца?

— Яму Рамбрант дапамог.

— Ведаю, ведаю... У міністэрстве працуе. Гэта ён, пэўна, і стаяў тут, пакуль стужку разразалі. Бачыш, прыйшоў: адчувае, што Каваль нават да пасрэднасці не дацягвае. Напэўна ён у імпартным касцюме і партфель з бліскучымі спражкамі.

Жанчына, што ўкладвала партфель, павярнула галаву, і, усміхаючыся, запытала:

— Пра якога гэта вы гаворыце?.. Мужчына ў імпартным — мой муж. І не Рамбрант ён, а Петухоў, працуе старшынёй райспажыўсаюза.

— А, а... — У адзін голас вымавілі мужчыны і выйшлі на вуліцу.

— Чакай, Сымоне, а пра якога ж Рамбранта ты гаварыў?

— Пра мастака галандскага.

— Пры чым ён тут?

— Пры тым: у Каваля віселі ў кватэры два эскізы вялікага галандца. Быў я ў яго нядаўна — іх ужо няма. Пэўна дырэктару салона падарыў...

— Ну і правільна зрабіў. Цяпер іх хоць людзі ўбачаць.

**Мікола Дубоўскі**



*А раптам вялікая рыбіна...*



*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*




*Нешчаслівы нумар.*

### ЯКОЕ ВЫЙСЦЕ

— Як ты асмельваешся прасіць рукі маёй дачкі, калі добра ведаеш, што ў цябе поўна даўгоў?

— А вы падкажыце мне другое выйсце!

### ТРЫВАЛАЯ АФАРБОЎКА

— Скажыце, калі ласка, гэта сукенка не ліняе? — пытае пакупніца ў прадаўшчыцы.

— Што вы! Вось ужо тры гады вісіць як новая.

### ЖАНІХ СА СТАЖАМ

Грэта хоча выйсці замуж, але яе маці лічыць, што дачка яшчэ вельмі мала знаёма з жаніхом.

— Што ты, мама, я даўно яго ведаю, — пярэчыць Грэта. — Ён цэлы год гуляў з Лізай, а потым яшчэ з адной маёй сяброўкай.

### ПАРАДА

Стары святар з невялікага французскага гарадка пайшоў да ўрача, свайго прыяцеля, каб атрымаць кансультацыю. Пасля агляду ўрач кажа святару:

— Захворванне вельмі сур'ёзнае. Ты павінен на тры месяцы паехаць у Швейцарыю.

— Але гэта немагчыма! Я патрэбен у царкве.

— Даражэнькі мой, адно з двух: Швейцарыя або рай!

— Ну, добра, паеду ў Швейцарыю.





**...Ён піў без адрыву ад вытворчасці — працаваў на спіртзаводзе.**

**...Аўтар аказаўся самакрытычным: заснуў, чытаючы ўласны твор.**

## А Т А Р Ў Ч К І



*Пісьменніка — класіка.*



*Пісьменніка прыгодніцкага жанру.*



*Лірыка.*



*Пісьменніка дэтэктыўнага жанру.*



*Прабіўнога.*



*Шукальніка новых літаратурных форм.*



### НЕВЯЛІКАЯ БЯДА

— Я чула, што ты другі раз выйшла замуж.

— Яно так, але мяне хвалюе, што ён значна маладзейшы за мяне.

— Не хвалюйся, пад уплывам твайго характару ён хутка пастарэе.

### АРОЛ

— Можа ваша высокасць сказаць, што гэта за птушка? — спытаў прынца настаўнік.

— Гэта арол, — адказаў прынц.

— Зусім верна! Гэта арол, але самы маленькі з усіх арлоў. Інакш яго можна назваць — верабей.




### ЦУД

Бабулька Тэкля расказвае пра вялікі цуд, які яна сама бачыла:

— Было гэта даўным-даўно. Сяджу аднойчы адна дома, і раптам з'яўляецца старац. „Я, — кажа ён, — цудатворац і магу вам сказаць, што праз некалькі хвілін загарыцца ваш дом". Я перапалохалася. „Што хочаш бяры, толькі зрабі, каб гэтага не здарылася". І што ж вы думаеце — дом не загарэўся...

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Паўла Гутніка з міхалоўскага ліцэя змяшчаем песню*

## HALO, CO TY O TYM WIESZ

słowa: Janusz Kondratowicz
muzyka: K. Krawczyk i R. Poznakowski
śpiewa: Krzysztof Krawczyk

Nagle, w słońcu błękitny wiatr
Ulica tylu zwyczajnych spraw
Dokąd biegniesz wśród ludzi, aut
Przez pejzaż lata, przez zamieć barw.
Bez ciebie rok gubi dni
Bez ciebie klucz myli drzwi,
Bez ciebie miód traci smak
Bez ciebie świat pusty tak
Bez ciebie w kąt idzie wiersz
Bez ciebie maj grudniem jest
Co o tym wiesz, o tym wiesz
O tym wiesz
Dokąd biegniesz, gdy mijasz mnie
To długa podróż do kresu dnia
Hej, hej, byłaś, nie ma cię
Bo jesteś chwilą co chwilę trwa.
Bez ciebie rok...

## КВАТЭРА

Атрымаў кватэру я — дай божа!
Светлая!
Прасторная!
Палац!
А ўсяліўся — дык, браткі,
хоць плач —
Пяты дзень на працу не выходжу,
Бегаю, спрачаюся, даводжу,
Што ў маёй кватэры дзверы,
вокны
Не зачыніш ні за што, хоць лопні,
Босым пойдзеш, дык пастрэміш
ногі,
І ашмоццем белым на падлогу
Сыпле столь, на сценах —
розны колер.
А ў дадатак і такое гора:
Не задрэмлеш пры любым
старанні,
Бо дудзяць, як саксафоны, краны:
Хоць бяжы на вуліцу са спальні.
Тут рамонт патрэбен капітальны!
Мне ж на гэта кажуць:
— А ты ўпэўнен?
Не настаў жа для рамонту
тэрмін...
Трэба, мабыць, адпачынак браць
Ды самому і раманатаваць.

**Уладзімір Правасуд**

### НАВУКОВЫ ЭКСПАНАТ

— Чаму гэта, сынок, у тваім інстытуце лапці, якія калісьці плёў твой дзед, у шкляную скрынку змясцілі?

— Гэта, тата, не лапці, а навуковы экспанат.

— Кажаш, навуковы экспанат? Шкада!..

— Што шкадуеце, тата?

— Шкада, што дзед не дажыў да сённяшніх дзён. Працаваў бы сёння ў тваім інстытуце і быў бы вучоным, бо лапці ён плёў ой як добра!






### НАШЭСЦЕ ПТУШАК

Сапраўднаму птушынаму нашэсцю падвергнулася невялікае паселішча Грэйсем у штаце Мэрыленд. З першых дзён вясны неба там стала чорным ад незлічоных чарод шпакоў і драздоў, якія аблюбавалі суседнія густыя гаі.

„Птушыная напасць" парушыла прывычны лад жыцця сельскага насельніцтва і парадзіла мноства буйных і дробных праблем. Полчышчы птушак знішчалі корм для дамашняй жывёлы, пачыналі сапраўдныя бataліі з мясцовымі сабакамі і катамі.

Дарослае насельніцтва Грэйсема сабралася на „ваенную нараду", каб абмеркаваць планы барацьбы з названымі прышэльцамі. Прапаноўваліся самыя неймаверныя праекты — ад прымянення лазернага прамення да ўсеагульнай малітвы. Пасля гарачых дэбатаў было вырашана звярнуцца за дапамогай да федэральных улад. Спецыялісты заявілі, што скапленне птушак абумоўлена незвычайным надвор'ем і яны самі паляцяць пасля пацяплення.

### САМЫЯ, САМЫЯ...

Краінай незвычайных сусветных рэкордаў называюць ФРГ. Вось два з іх.

Самая доўгая ў свеце цыгара захоўваецца ў музеі ў заходнегерманскім горадзе Бундэ. Яе даўжыня 1,7 метра. Акружнасць 67 сантыметраў. Каб выкурыць яе, патрэбна не менш як 600 гадзін.

Самыя доўгія ў свеце валасы ў пані Зюманцік з Гютэрсло. Іх даўжыня 2.03 метра. Каб расчасаць і прывесці іх у парадак, уладальніца ўнікальных валасоў вымушана станавіцца на крэсла, паколькі яе ўласны рост ледзь дасягае 1,56 метра. Апошні раз яна ўкарочвала свае валасы 27 гадоў назад.




*Літаратура знаходзіцца сёння на такім высокім узроўні развіцця, што любы конь (калі чуць-чуць пастараецца) можа стаць Пегасам.*